З ПЕСНЯЙ НАСУСТРАЧ XXX-годдзю ПНР

**Маладзёжны актэт з Гайнаўкі на сёлетнім цэнтральным песенным аглядзе БГКТ заняў трэцяе месца ў групе вакальных калектываў у катэгорыі сучаснай песні.**

**Фота А. Карпюка**




# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 25 (956) ГОД XIX БЕЛАСТОК 23 ЧЭРВЕНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.




# Добра, АЛЕ...

Трэці ўжо год нашы сяляне карыстаюцца бясплатнай лекарскай апекай. Якія праблемы хвалююць цяпер лекараў і сялян? Паставіўшы сабе гэтае пытанне, мы падаліся ў гміну Міхалова Беластоцкага павету.

Было споўдня, і ад кіраўніка гміннага цэнтра аховы здароўя лекара медыцыны **Уладзіслава Пшылажынскага** выходзілі апошнія ўжо ў гэты дзень пацыенты.

— Мінулы 1973 год быў асабліва цяжкі ў нас, толькі ў Міхалове мы далі 29.500 лекарскіх парад, шмат пацыентаў меў таксама цэнтр здароўя ў Юшкавым Грудзе, які цяпер падлягае нашай гміне. Пераважна эмфізіёна лёгкіх, захворванне дыхальнага кровазвароту; выраджэнне суставаў і інфаркты (завалы). Словам, захворванні, якія патрабуюць працяглага лячэння і ў тым ліку бальнічнага. А бальніцы ў Беластоцкім павеце няма. Карыстаемся беластоцкімі. Цяжкасці з месцамі вялікія. Праўда, у экстраных выпадках бальніцы прымаюць хворых, хоць бы мелі іх памясціць на калідоры, асабліва пры падазрэнні інфаркту. Беластоцкаму павету патрэбна ўласная бальніца.



— Бадай, найбольш хварэюць старыя людзі?

— І не толькі хварэюць. Тут праблем шмат. Старэчая пенсія за здадзеную дзяржаве зямлю — гэта далёка не ўсё. Трэба ж некаму апекавацца старымі, хворымі людзьмі. Не ўсё могуць зрабіць грамадскія арганізацыі ці гарцэры. І не ў кожным выпадку вінаваты дзеці ці радня, старыя людзі проста не хочуць пакідаць наседжанага гнязда, дзе сышло ўсё іх жыццё. Але і тым, якія згодны развітацца са сваім кутком, мы не заўсёды можам забяспечыць месца ў доме старцаў. Такі дом ёсць у Ялоўцы, у ім знаходзяць адпаведную апеку старыя людзі з усяго павету і суседніх з ім ваколіц, а ў нас у гміне ляжыць стос просьбаў, на якія мы не можам станоўча адказаць. Калі б сабраць з нашай гміны ўсіх патрабуючых месца ў доме старцаў, было б чалавек 200, а праз год-два будзе іх 300. У ялоўскім доме ўсяго 100 месц. Значыць, у перспектыве будзе патрэбны гмінны дом старцаў.

— Але з маладымі няма такіх праблем?

— Гэта праблемы іншага характару. Па-першае, гмінны радзільны дом не здае экзамена. Маладыя маткі больш ахвотна заказваюць пагатоўе і едуць раджаць у беластоцкую клініку. І лепш усё ж, і, па праўдзе сказаўшы, танней, бо ў нашым радзільным доме агульны кошт адных родаў складае каля дзесяці тысяч злотых, а ў клініцы — каля 3 тысяч. Замала ў нас таксама зубных лекараў. Стан зубоў у нашай школьнай моладзі страшэнны, напрыклад, у школе ў Новай Волі на 108 дзяцей толькі адно мае здаровыя зубы. Аднаму зубному лекару, што цяпер працуе ў нас, адолець карыёз (прухніцу) ва ўсёй гміне не пад сілу. Неабходны таксама пратэзіст.

— Ці здараюцца яшчэ ў гміне выпадкі „лячэння“ рознымі замовамі?

— Не, колішняга, так сказаць, класічнага знахарства ў нашай гміне не заўважаецца, але пашыраецца лекаманія. Трэба ці не — людзі глытаюць розныя пілюлі, часам нават антыбіётыкі і страшэнна шкодзяць самі сабе, атруч-

(Працяг на стар. 5)

МІНСКІЯ СУСТРЭЧЫ




**РАЗМОВА З АЛЕСЕМ БАЧЫЛАМ — АЎТАРАМ ЛІБРЭТА АПЕРЭТЫ „ПАЎЛІНКА“.**

**Пытанне:** Калі ў Вас выспела думка аб магчымасці перапрацоўкі п'есы Купалы „Паўлінка“ на аперэту?

**Адказ:** Гадоў восем таму назад. Аднак тады я быў заняты іншымі справамі. У сувязі з тым, што мая лірыка-камічная опера „Калючая ружа“ мела поспех не толькі ў Беларусі, але і па-за яе межамі, урэшце я рашыў прыступіць да перапрацоўкі „Паўлінкі“. Разам з кампазітарам Семянякам прыступілі мы да работы ў 1971 годзе і над лібрэта і музыкай працавалі два гады.

**Пытанне:** Якія былі цяжкасці ў працы над купалаўскім тэкстам, які трэба было прыстасаваць да новых умоў?

**Адказ:** Цяжкасці былі рознага тыпу. Па-першае, у класічным творы Купалы было замнога факталагічнага матэрыялу. Трэба было скарачаць. Хацелася скараціць і выкрэсліць як найменш. Кожнае слова Купалы было нам дарагое. Скрэсліванне тэксту Купалы было найбольшай цяжкасцю.

Па-другое, перапрацоўваючы „Паўлінку“ Купалы, мы былі пад націскам традыцыі пастановак „Паўлінкі“ ў тэатры. Пастаноўшчыкі „Паўлінкі“ прыйшлі да вываду, што ў п'есе заслабы рэвалюцыйны матыў, і таму „загадалі“ Якіму Сароку чытаць тэкст Горкаўскага „Буравесніка“. Было гэта непераканаўча і не згодна з тэкстам Купалы. Мы не пайшлі па гэтай лініі. Шукалі іншага вырашэння. У сувязі з тым, што асноўная тэма ў п'есе гэта тэма мужыка, зрэшты, галоўнае і ва ўсёй творчасці Купалы і ва ўсёй беларускай літаратуры пачатку XX ст., — мы рашылі гэтую тэму зрабіць лейтматывам усёй аперэты. Гэтым тлумачыцца ўвядзенне ў твор верша „Мужык“, які чырвонай ніткай праходзіць праз усю аперэту. Ад яго пачынаецца аперэта і ім канчаецца.

**Пытанне:** Што вы скрэслілі з тэксту Купалы і што дадалі да яго?

**Адказ:** Скрэслілі каля адной трэцяй купалаўскага тэксту. Перш за ўсё скрэслілі мала дынамічныя бытавыя сцэны. Дадалі таксама каля адной трэцяй тэксту. Увялі ў аперэту песні з тэкстам такіх вершаў Купалы, як „Як у лесе зацвітала“, „Мужык“, „Як у лесе зацвіталі явар і каліна“, „Явар і каліна“. Уведзены таксама тэксты народных песень. Ад сябе я ўвёў у „Паўлінку“ тэксты, якія спяваюцца падчас каруселі, арыю Паўлінкі „Вось і сонца заходзіць“, песню Паўлінкі і іншых „Птушкай бяс-



## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“

**„Беластоцкая зямля“ на моры ● Сустрэча з камандарам падпаручнікам Уладзімірам Бураком ● Што новага ў ТППР? ● Артыкул генерала М. Аляксеева аб вызваленні Мінска ● Фэстын у Орлі ● Весткі з Саколкі, Гайнаўкі, Дубін, Ажынніка, Юшкавага Груду, Дубіч Царкоўных, Спічак, Крываўціч, Белавежы, Чыжоў, Тапчыкалаў, Грэдалёў, Падбелля і інш. ● Песня „Srebrne wesele”.**




У цэнтры Гданьска, пад Нептунам змяшчаецца сядзіба аддзела БГКТ, які гданьчане звычайна і зусім трапна называюць **„беларускім клубам“**.

Змучаны вандроўкай па Узбярэжжы, рашыў я наведаць гэты клуб.

Было ўжо позна. Набліжалася 9-ая гадзіна вечара, ад Гданьскага заліва дзьмуў халаднаваты майскі вецер. Па каменных плітах, якія тут падмяняюць тратуар, шпацыравалі закаханыя пары і турысты. Фантан, што безупынку абмывае Нептуна, зіхацеў залатымі водбліскамі пражэктараў.

Быў будзённы дзень, серада. Убачыўшы мяне, сакратар гданьскага аддзела БГКТ **Анна Красько** не скрывала свайго здзіўлення. У клубе іграў тэлевізар, сядзела некалькі маладых людзей, на сваім пасту была **Кацярына Забілевіч**, або інакш — як яе тут усе называюць — **пані Катажына**. Без яе нельга ўявіць сабе беларускага клуба ў Гданьску. Яна там прыбярэ, чайку нарыхтуе, бяду кожнага выслухае, добрым словам параіць.

— О, каб вы ведалі, колькі ўжо тут на маіх вачах хлопцаў пажанілася, колькі дзяўчат замуж павыходзіла! — гаварыла яна мне. Пані Катажына ўжо ў гадах. Пакуль узбярэцца на другі паверх, дыхае і задыхаецца. Жыве адна.

— Дзеці мае вось тут, у клубе, — кажа яна і сапраўды па-матчынаму адносіцца да ўсіх пастаянных наведвальнікаў клуба. Складаецца ён з двух пакойчыкаў са скромнай бібліятэкай і тэлевізарам. З імі мяжуе службовы пакойчык, куды просіць мяне Аня Красько.

У Ані добрая прафесія, яна па адукацыі медсястра, цяпер працуе ў ліцэі медыцынскіх сясцёр і адначасова рыхтуецца да паглыб-

(Працяг на стар. 4)



крылаю ты не ўбівайся“, дуэт Агаты і Альжбеты, куплеты Пранцыся, куплеты Быкоўскага.

У сувязі са скарачэннем купалаўскага тэксту трэба было ўвесці слоўныя пераходы, злучнікі, але захаваць лагічную цэласць твора.

У суме дадалі крыху больш, чым выкінулі. Хачу аднак паўтарыць, што стараліся як найбольш захаваць тэксту Купалы.

**Пытанне:** Раскажыце шырэй аб сваёй творчасці ў галіне оперы і аб сваіх планах.

**Адказ:** Напісаў я лібрэта да опер „Яснае світанне“, „Калючая ружа“, „Калі ападае лісце“, „Зорка Венера“, ну, і лібрэта аперэты „Паўлінка“. Найбольшыя цяжкасці меў з напісаннем оперы пра Багдановіча „Зорка Венера“. Хацелася, каб опера была згоднай з сапраўдным жыццём і пачуццямі Багдановіча. Вядома, што жыццё Багдановіча яшчэ не вывучана. Прыйшлося шукаць верагодных крыніц. Вялікае значэнне для мяне мелі сустрэчы з братам Максіма Багдановіча Паўлам і з Зосяй Верас, якая ведала Багдановіча. Што датычыцца планаў, то хацеў бы напісаць оперу аб Каліноўскім. З гэтай мэтай я нават ездзіў у Стакгольм. Справа ў тым, што падчас Студзеньскага паўстання 1863 года ў Швецыі фарміраваўся міжнародны легіён, які меў праз Польшчу дабрацца ў Беларусь і далучыцца да Каліноўскага. У легіён гэты, між іншым, уваходзілі рускія рэвалюцыйныя афіцэры. Пакуль што лібрэта оперы яшчэ не напісана.

**Пытанне:** Ваша творчасць вядома чытачам „Нівы“. Будзе нам прыемна, калі захочаце сказаць у адрас „Нівы“ некалькі слоў.

**Адказ:** Хачу сказаць, што я быў у Польшчы. Я заўсёды там выступаў на беларускай мове і быў здзіўлены, што мяне дасканала разумеюць. Таму наша перакладчыца не мела работы. Я вельмі ўдзячны, што нас у Польшчы разумеюць і прымаюць. Што датычыць беларусаў у Польшчы і „Нівы“, дык мне хацелася б, каб яны як найбольш цікавіліся беларускай культурай. Мяжа паміж Польшчай і БССР не раздзяляе, але злучае. Зрэшты, душа і сэрца мастацтва не ведаюць межаў. Было б вельмі добра, калі б аперэта „Паўлінка“ была паказана ў Беластоку і вогуле, каб у Польшчы было паказана ўсё тое, што ў нас найлепшае.

Я чытаю „Ніву“ і хачу сказаць, што гэты часопіс робіць многа добрага. Думаю, што „Ніва“ павінна шырэй інфармаваць аб жыцці БССР. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на нашы выданні, на спектаклі, на кнігі. Мне здаецца, што трэба не толькі называць такія ці іншыя кнігі, але і даваць кароткія характарыстыкі іх зместу. Трэба памагаць чытачу. Хацелася б пажадаць і супрацоўнікам „Нівы“ і яе чытачам усяго найлепшага.

Гутарыў **Алесь Барскі**




# У БЕЛЬСКІМ БЕЛАРУСКІМ ЛІЦЭІ

Запытаў я ў дырэктара гэтага ліцэя, магістра **Аляксея Карпюка.** Ён адказаў:

— Ліцэй **адзначае ў гэтым годзе двайны юбілей: 30 гадоў працы і выдачу ТЫСЯЧНАГА атэстата сталасці.** Наш ліцэй быў адным з першых сярэдніх агульнаадукацыйных школ, якія ўзніклі на вызваленых ад гітлераўцаў землях Беласточчыны.

— Каго з вашых выпускнікоў уганаруеце тысячным атэстатам сталасці?

— Наша размова праходзіць перад афіцыйным заканчэннем школьнага года, і педагагічная рада яшчэ не падвяла канчатковых вынікаў навучання. Адно толькі ведаю, што юбілейныя атэстаты прыпадуць нашым найлепшым вучням, **якія адначасова атрымаюць права паступіць без экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы.** Такімі вучнямі ў нас з'яўляюцца: **Таіса Філіманюк, Люцына Янушкевіч, Яўгеній Семянюк, Аліна Высоцкая, Валя Барута, Лёня Іванюк** і іншыя. Усе яны выдатнікі. Вось Лёня Іванюк па ўсіх прадметах ужо другі год мае адны толькі пяцёркі. Яго мы кіруем на навуку ў Савецкі Саюз. Аліна Высоцкая выбрала беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта. Валя Барута рашыла вывучаць хімію. Вучняў добрых у нас многа.

— А ўсіх колькі?

— У 1973-74 навучальным годзе ў нашым ліцэі вучылася 448 вучняў. Цяпер кожны год у першыя класы набіраем мы па 120 асоб. Ахвотных у апошніх гадах было заўсёды намнога больш, чымсьці маглі мы прыняць. Для прыкладу, у мінулым годзе падалі да нас заявы 144 выпускнікі пачатковых школ, сярод якіх аж 102 было без троек.

— Адкуль паходзяць вашы вучні?

— Найбольш кандыдатаў пастаўляюць нам школы з Пасынкаў, Зубава, Плёскаў, Рыбалаў, Аўгустова, Дубяжына, Вулькі Выганоўскай і Клейнікаў. Аднак асноўнай нашай базай з'яўляецца **пачатковая школа № 3 у Бельску,** якая памяшчаецца ў гэтым жа самым будынку, што наш ліцэй. Дырэктар гэтай школы **Ян Суліма** разам з усімі настаўнікамі дбае пра высокі ўзровень навучання. І таму адносімся мы да педагагічнай рады гэтай школы з поўным даверам. Ведаем, што кіруе яна да нас добрых вучняў. Дарэчы, **гэта ж адзіная ў Бельску пачатковая школа, у якой дзеці вывучаюць беларускую мову.** І таму таксама мы ахвотна бачым яе выпускнікоў сярод нашых вучняў. У нас жа беларускі ліцэй.

— Вось менавіта, які змест скрываецца ў словах **„беларускі ліцэй“?**

— Яны абазначаюць, што вучні нашага ліцэя, **апрача праграмы, якая абавязвае ва ўсіх сярэдніх агульнаадукацыйных школах, абавязкова** вывучаюць яшчэ **беларускую мову і беларускую літаратуру,** яны пазнаюць вытокі беларускай нацыі і ўсведамляюць сваю нацыянальную прыналежнасць. Многія выпускнікі нашага ліцэя з'яўляюцца пасля актывістамі Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Мы таксама пастаўляем асноўную частку кандыдатаў на беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта.

Амаль палавіна нашых выпускнікоў (47 працэнтаў у мінулым годзе) пачынае штогод вучыцца ў вышэйшых навучальных установах. У гэтым выпадку мы апярэджваем (у мінулым годзе на 5 прац.) сярэдні агульнадзяржаўны ўзровень.



Нашы вучні з добрымі вынікамі прымаюць удзел у міжшкольных і ваяводскіх алімпіядах па польскай і рускай мовах, па матэматыцы, хіміі, біялогіі і па ведах аб Польшчы і аб сучасным свеце. У нашым ліцэі працуюць добра падрыхтаваныя, вопытныя педагагічныя кадры. Для прыкладу: настаўнік па фізіцы **Рыгор Анацік** вучыць дзяцей у нас ужо 24 гады, настаўніца па біялогіі **Вольга Нікановіч** — 20 гадоў, настаўніца па геаграфіі **Серафіма Кандрацюк** — 19 гадоў, **Мікалай Красоўскі,** дасканалы матэматык, мае 12-цігадовы вопыт у працы...

— У якіх умовах вучыцца ваша моладзь?

— Стараемся як мага найчасцей прымяняць наглядны метад перадачы ведаў вучням. Спрыяюць гэтаму заняткі ў прадметных кабінетах. Якраз абсталёўваем кабінеты для матэматыкі, беларускай, польскай і рускай моў, намераны пераабсталяваць фізічны і біялагічны кабінеты. На жаль, нам ужо зацесна ў гэтым будынку, які быў разлічаны на 18 класных аддзяленняў, а цяпер памяшчаецца ў ім аж 29. Трэба пашыраць наш школьны гмах. Пакуль што грамадскім чынам рашылі мы дабудаваць тры класныя залы. На рэалізацыю гэтага мерапрыемства павятовыя і гарадскія ўлады адвялі нам 340 тысяч злотых. Рэшту зробім рукамі бацькоў нашых вучняў, якія ахвотна — па загадзя распрацаванаму графіку — прыязджаюць сюды працаваць.

Гутарыў **Віктар Рудчык**




■ 4 чэрвеня адбылося пасяджэнне прэзідыума праўлення беластоцкага павятовага аддзела БГКТ; у ім прынялі ўдзел прадстаўнікі ўстаноў, якія з'яўляюцца суарганізатарамі беларускага народнага фэстына, што адбудзецца ў Рыбаках над рэчкай Нарвай 30 чэрвеня. Прысутныя абмеркавалі і зацвердзілі праграму фэстына, якая будзе складацца з даклада, прысвечанага XXX гадавіне Народнай Польшчы, выступлення харавога калектыву беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ і школьнай танцавальнай групы з Міхалова, згадуй-згадулі на тэму XXX гадавіны ПНР, адкрытага мікрафона для ўдзельнікаў фэстына, спартыўных спаборніцтваў, паказаў пажарнай каманды і іншых цікаўнасцей. Міхалоўскі ГС забяспечыць фэстын харчовымі таварамі. Фэстын закончыцца танцавальнай вечарынай.

■ Сакрат Яновіч 5 чэрвеня меў аўтарскую сустрэчу ў школах у Семяноўцы і Луцэ, дзе адказваў на шматлікія пытанні, а таксама падпісаў шмат экземпляраў „Загонаў“ і „Літаратурнай Беласточчыны“.

■ 7 чэрвеня пад кіраўніцтвам старшыні бельскага аддзела БГКТ Аляксея Карпюка адбылося пасяджэнне арганізацыйнага камітэта беларускага народнага фэстына, які адбудзецца ў Саках 23 чэрвеня. Абмеркаваны былі арганізацыйныя справы гэтага мерапрыемства.

■ 8 чэрвеня гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку ў гонар XXX гадавіны нашай Айчыны чатыры гадзіны працаваў пры будове гарадской плошчы сходаў на Юравецкай вуліцы. Вечарам у памяшканні ГП адбылася танцавальная вечарына.

■ 8 чэрвеня адбыўся пленум гданьскага аддзела БГКТ. Сакратар аддзела Анна Красько прачытала даклад, прысвечаны 30-годдзю Народнай Польшчы, а член прэзідыума праўлення аддзела Эдвард Шафаловіч — справаздачу аб дзейнасці праўлення аддзела за 1973 год і палову 1974 г. А вось некаторыя даныя са справаздачы: гданьскі аддзел налічвае 116 членаў БГКТ. Членскія складчыны за 1973 год аплочаны ў 72,3%. Падпісчыкаў „Нівы“ — 22 асобы, бібліятэка аддзела мае 247 беларускіх кніжак. На працягу паўтара года аддзел арганізаваў 10 урачыстых вечароў, прысвечаных 16-годдзю БГКТ, Вандзе Васілеўскай, Янку Купалу, Якубу Коласу, „анджэйкам“, Дням Гданьска, 500 гадавіне Каперніка, 30 гадавіне Войска Польскага, успамінам генерала Берлінга і Ванды Васілеўскай. Адбылося таксама некалькі аўтарскіх сустрэч нашых літаратараў. Другім пунктам пасяджэння пленума было прыняццё плана працы аддзела на II паўгоддзе 1974 года, у якім, між іншым, прадбачана арганізаваць выстаўку „30 год Беласточчыны“, даклад „Беларусы на франтах II сусветнай вайны“, актывізаваць вакальны калектыў і арганізаваць тэатральны калектыў. Затым пленум выбраў новага старшыню аддзела — Славаміра Новіка, выхадца з вёскі Мастаўляны, што ў Беластоцкім павеце. У працах пленума прыняў удзел намеснік старшыні ГП БГКТ галоўны рэдактар „Нівы“ Георгій Валкавыцкі.

■ 9 чэрвеня ў Орлі была арганізавана раённая ўрачыстасць, прысвечаная XXX гадавіне ПНР, суарганізатарам якой быў бельскі аддзел БГКТ. У мастацкай частцы выступілі калектывы БГКТ: з Бельска — „Васілёчкі“, эстрадная група з Плёсак, музычная група з салісткай Аліцыяй Хаванскай з Беластока і мясцовы харавы калектыў. У гэтай урачыстасці прыняў удзел старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік. Аб ёй у наступным нумары „Нівы“ будзе змешчан фотарэпартаж.

■ Нядаўна гурток БГКТ у Скрабляках (Беластоцкі павет) падрыхтаваў цікавы вечар з нагоды Міжнароднага дня маці. Самадзейнікі гуртка чыталі вершы беларускіх паэтаў, прысвечаных маці. (мх)




**Niedziela 23.VI.** 6.30 Tech. Rol. Zoolog. 7.00 J. polski. 7.30 Kurs Rol. 8.15 Now. w domu i zagr. 8.35 Alarm przeciwpoż. 8.45 Bieg po zdrowie. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Ex libris. 10.30 Powtórz. Meczu NRD — RFN. 12.05 Dziennik. 12.25 Studio Muzyki Rozr. 12.55 Pr. wiejski. 13.10 Wielka gra. 14.10 Jeden dzień Lizbony. 14.25 Dla dzieci. 14.55 Nie tylko dla pań. 15.20 Refleksje ob. 15.35 Los. Toto — Lot. 15.50 Piłka nożna. Polska — Włochy. 17.45 Cygańskie wesele. 18.35 Tele — Echo. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Film fab. USA — Troje to za wiele. 21.30 Sam na sam z A. Hanuszkiewiczem. 22.30 Sport.

**Poniedziałek 24.VI.** Tech. Rol. 12.45 Hod. zwierz. 13.25 Upr. rośl. 15.40 Nurt — Ekonom. 16.10 Pr. dnia. 16.15 Oferty. 16.30 Dziennik. 16.40 Zwierzyniec. 17.25 Echo stad. 17.50 Kurier Biał. 18.05 Śpiewa B. Kapica. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Przewartościowania. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: J. Iwaszkiewicz — Sława i chwała. 21.50 Sport. 22.00 Minione trzy lata — film dok. cz. I. 22.30 Pr. rozr. 22.50 Dziennik.

**Wtorek 25.VI.** Tech. Rol. 6.30 Hod. zwierz. 7.00 Upr. rośl. 10.00 Jozef Balsamo — film franc. Tech. Rol. 13.45 Mat. 14.30 Upr. rośl. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: 17.05 Spacerkiem po kinach. 17.35 Studio Złotowe Tel. Mł. 17.50 Dla młodzieży. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Eureka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Józef Balsamo — film franc. 21.20 Świat i Polska. 22.05 Sport. 22.15 Pr. baletowy. 22.50 Dziennik.

**Środa 26.VI.** Tech. Rol. 6.30 Mat. 7.00 Upr. rośl. 10.00 Tęsknota Sherlocka Holmesa — film fab. czech. 14.25 Politech. Kurs przygot. Fiz. 15.30 Pr. dnia. 15.35 Inf., Tow., Prop. 15.50 Piłk. Mistrz. Świata. 17.45 Los. Mał. Lot. 17.55 Dziś burza mózgów. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Ludzie z plakatów. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Opole 74 — Koncert inauguracyjny. 22.45 Dziennik. 23.00 Przegląd. Piłk. Mistrz. Świata.

**Czwartek 27.VI.** 9.00 Finały Mistrz. Świata w piłce nożnej — powt. meczu z 26.VI. 10.35 Film USA — Al Capone i inni. Tech. Rol. 13.45 Bot. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.40 Gra. Repr. Orkiestra Marynarki Wojennej. 18.10 Kr. Warsz. i Maz. 18.30 Poligon. 19.00 Test — Sł. Ekonom. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Film USA — Al Capone i inni. 21.10 Sport. 21.20 Czym żyje świat. 21.50 Kalosz — 2. 22.25 Inf., Tow., Prop. 22.40 Dziennik.

**Piątek 28.VI.** Tech Rol. 6.30 Botan. 7.05 Mech rol. 10.00 W upojnym rytmie tanga — film fab. rum. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.20 Wych. fiz. receptą na zdrowie. 17.45 Dla młodzieży. 18.15 Kr. Warsz. i Maz. 18.30 Panorama. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Opole 74 — To śpiewa młodość. 22.35 Jedna z wielu — rep. film. 23.05 Dziennik.

**Sobota 29.VI.** 10.00 Poznaj samego siebie — film. fab. radz. 15.45 Pr. dnia. 15.50 Pr. I prop. 16.05 Inf. Wyd. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.00 Dla mł. widzów. 17.40 Szare na złote. 18.05 Klub Mił. Sztuki. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Opole 74 — Premiery. 22.40 Sport. 22.50 Poznaj samego siebie — film fab. radz.




**Piątek, 21.VI.** 17.30 Piłka nożna. Puchar ZSRR. 19.45 TV republikański festiwal. Okręg mohylowski.

**Sobota, 22.VI.** 17.10 Śpiewa L. Złatowa. 17.35 Film fab. 19.30 Piłka nożna. NRD — RFN.

**Niedziela, 23.VI.** 11.30 Film fab. 13.10 Filmy anim. 13.40 Panorama międzynar. 14.10 Na V międzynar konkursie im. P. Czajkowskiego. 15.00 Klub film. 16.00 Piłka nożna. Polska — Włochy. 17.45 Film fab. 20.30 Mistrzostwa Europy w zapasach. Finał.




**Białowieża** 10 dni bezpłatnego urlopu — buł. 25—26. Królowe dzikiego zachodu — fran. 27—28. Jakow Bogomołow — radz. 29—30.

**Czeremcha** Tam, gdzie rośnie zielony bór — jug. 25—26. Posag księżniczki Ralu — rum. 29—30.

**Czyże** Nareszcie poniedziałek — węg. Raport 36 — kor. 26—30.

**Dubicze Cerkiewne** W pustyni i w puszczy — pol. 26—30.

**Gródek** W pustyni i w puszczy — pol. 29—30.

**Kleszczele** Przygody misia Yogi — USA, 25—26. Poczekam aż zabijesz — czes. 27—28. Wykryć szpiega — radz. 29—30.

**Michałowo** Własne zdanie — bułg. 25—26. Hubal — pol. 27—30.

**Mielnik** Front wyzwolenia — pol. 25—26. Pierścień księżnej Anny — pol. 27—28. Pierwsze dni — pol. 29—30.

**Milejczyce** Kapitan Korda — czes. 25—26. Młynarczyk i kotka — NRD 27—28. Nie będą cię kochać — pol. 29—30.

**Narew** Łobuz — fran. Białe słońce pustyni — radz. 26—30.

**Narewka** Godzina szczytu — pol. Wesele — pol. 26—30.

**Nurzec** Przygody Tomka Sawyera — rum. 25—26. Tropiciel śladów — rum. 27—28. Ogniomistrz Kaleń — pol. 29—30.

**Orla** Góry, rzeki, ludzie — pol. W imieniu prawa — franc. 26—30.

**Rajsk** Drogi mężczyzn — czes. Słoń z indyjskiej dżungli — radz. 26—30.

**Suchowola** Spragniona miłości — buł. Niewygodny kochanek — włos. 26—30.

B.Z.Graf. zam. 1655 0-4

# БЕЛАВЕЖСКІ прыродазнаўчы музей ЗАПРАШАЕ

Амаль усе турысты і экскурсанты, якія прыязджаюць у Белавежу, накіроўваюцца спярша ў прыродазнаўчы музей Белавежскага нацыянальнага парку. Нічога дзіўнага. Гэты музей вядомы не толькі ў Польшчы, але і за граніцай. 27 чэрвеня 1972 года яго перавялі ў новае памяшканне. Выставачная паверхня пабольшылася да 1200 квадратных метраў (у старым памяшканні выстаўка займала ўсяго 350 кв. метраў). Новую экспазіцыю запраектавалі вядомыя архітэктары мгр інж. Братыслаў Вальчынскі і мгр інж. Андрэй Міклямэўскі.

Выстаўку распачынае інфармацыя аб стане 12 нацыянальных паркаў у Польшчы. Далей знаходзяцца фотакопіі дакументаў, якія паказваюць узнікненне Белавежскага парку, і здымкі вучоных, заслужаных у развіцці навукова-даследных прац на яго тэрыторыі. У некалькіх вітрынах можам агледзець частку публікацый аб прыродзе Белавежскай пушчы. Іх аўтарамі з'яўляюцца А. Дэнель, Я. Карпінскі, Я. Пачоскі, А. У. Сакалоўскі, Я. Б. Фалінскі, З. Пуцэк, С. Бароўскі, С. Косак, У. Ауляк, У. Матушкевіч.



*Этнаграфічная секцыя: пляцёнкі і кераміка.*

Варта спыніцца ля карты польскай часткі пушчы. Намечаны на ёй шляхі, запаведнікі, важнейшыя помнікі прыроды. Побач увагу звяртае секцыя з саставам магілы дзіцяці з III-IV стаг. н.э., знойдзенай ва ўрочышчы „Гайдуцкае".

Далей знаходзяцца здымкі курганаў, фотакопіі старых карт, разрэз 181-гадовага пня елкі, даўнейшая паляўнічая зброя, секцыя бортніцтва. У этнаграфічнай секцыі бачым уборы з ваколіц Белавежы, куфар, капанькі, кадушкі, пляцёнкі, збанкі. Потым наведвальнік знаёміцца з лясной прамысловасцю. Ёсць і куток для паляўнічых. Поруч на картах і здымках прадстаўлены водныя адносіны, тэмпература паветра, абшары, дзе выступаюць некаторыя віды дрэў, тыпы лесу. Першы паверх канчае 10 стаячых пнёў розных дрэў.

На наступным царствуе флора і фаўна. У секцыі флоры асаблівую ўвагу звяртаюць каляровыя дыяпазітывы, якія выканалі Тамаш Альшэўскі і Лех Вільчэк. Іх у цэлым музеі 36 штук. Аднак найцікавейшымі амаль для ўсіх наведвальнікаў з'яўляюцца экспанаты ў секцыі фауны. Ёсць тут куток вымершых звяроў, потым экземпляры членістаногіх паўзуноў, рыб. Вялікая калекцыя насякомых (звыш 1000 штук). Таксама прыцягвае зрок калекцыя птушак і іх яек. Збор млекакормячых, якіх тут прыблізна 80 экземпляраў, м. інш. лосі, алені, сарны, дзікі, рысі, ваўкі, зайцы, бабры, кажаны, мышы, канчаючы зубры. Сенсацыю выклікаюць два, упаляваныя прафесарам Зроцкім ў 1830 годзе.

Апекуном фондаў музея з'яўляецца вядомы на Беласточчыне прыродазнаўца і грамадскі дзеяч др інж. Чэслаў Аколуў. Тэхнічныя працаўнікі гэта — Вальдэмар Хвыць і Пётр Байко. Дазорам экспанатаў займаюцца Мікола Бушко, Уладзімір Гвай, Люба Бушко, Ніна Рагачэўская і Ванда Душэўская.

У новым памяшканні ў 1972 годзе (музей адкрыты быў толькі 6 месяцаў) яго наведала каля 43 тысяч наведвальнікаў, у тым ліку звыш 2 тысяч замежных з 30 краін. Год 1973: каля 94 тысячы наведвальнікаў, замежных прыблізна 4 тыс. з 50 краін. У гэтым годзе ў першым квартале музей наведала звыш 5 тыс. экскурсантаў.

І яшчэ дзве інфармацыі. Прыродазнаўчы музей адкрыты ў гадзінах ад 9 да 15 штодзённа, апрача панядзелкаў і паслясвяточных дзён. Уваход для дарослых каштуе 4 зл., для школьнікаў і студэнтаў 2 зл.

**Пётр Байко**
фота **Ч. Аколува**



*Фауна Белавежскай пушчы: рысі.*




## Самавыяўленне

Спярша быў факт. „Дакладваю, што 9 чэрвеня 1973 года ў 11 гадз. 15 мін. у Беластоку на скрыжаванні вуліц Рынак Касцюшкі і Сянкевіча аўтамашынай „Волга" (нумар Б 13...), кіраванай вадзіцелям М., быў учынены наезд на грамадзянку Гапку З., ... год, якая неўзабаве была дастаўлена ў бальніцу з пераломам абедзвюх ног. З апытання сведкаў, паказанняў вадзіцеля і пацярпеўшай высветлілася, што грамадзянка Гапка З., ішоўшая ў туфлях тыпу „платформа" і апранутая ў вельмі доўгую спадніцу, спатыкнулася і ўпала. Наезд аўтамашыны, ішоўшай з хуткасцю 60 км/гадзін, быў непазбежны..." (з рапарту міліцыянера).

— Яшчэ адна ахвяра дыктатуры моды, — сказаў, даведаўшыся аб няшчасці, доктар Знахарук і паглыбіўся ў абстрактныя разважанні. — Феномен з неразгаданай тайнай! Рабіць на шкоду сабе, ісці насуперак наймацнейшаму інстынкту самазахавання, які закладзены ў кожнай жывой істоце! У чым жа тады сакрэт усемагутнай дыктатуры?.. Абнаўленне? Самавыяўленне? Апраніся незвычайна, і ўжо на цябе звярнулі ўвагу... Танны заменнік, сурагат!.. Вядома, людзі пазнаму будуюць свае ўзаемаадносіны з модай. У літаратуры аб гэтым прадмеце ёсць нават адпаведныя тэрміны: „лідэры" і „імітатары". Першыя задаюць тон, а другія слепа дрыпаюць за капрызнай уладарніцай. Каб толькі не праславіцца „несучаснымі", „старамоднымі". І вось якраз для іх, сляпых, каралева і ставіць падножкі. Прыклад з гісторыі хваробы К., якая хварэла гіпертанічнай хваробай II ступені. Праз 5 гадзін пасля афарбоўкі валос урсолам наступіла алергічная рэакцыя замаруджанага тыпу, якая праявілася ў выглядзе кантактнага дэрматыту і ацёку Квінке... Ацёк распаўсюдзіўся на гартань, суправаджаўся цяжкім прагрэсіруючым прыступам бранхіяльнай астмы. Купіраваць прыступ дыхавіцы медыкамендознымі сродкамі не ўдалося, і праз некалькі гадзін пры рэзкім павышэнні крывянога ціску ён закончыўся летальным канцом.

Доктар Знахарук зрабіў тонкі намёк. Маўляў, шчаслівчык ты, у Гапкі абышлося толькі пераломам ног.

Але якіх ног! Усюды яны неслі яе спешна. Усё баяліся, каб не спазніцца. З модай у Гапкі было таксама. Яе „максі" замятала тратуар. А з коўбікавых платформаў Гапка глядзела на людзей, бы з трыбуны: узнёсла і самазадаволена (самавыяўленне ва ўстанаўленні сябе як асобы). І стрымгалоў паперла ў Беласток на „Пякельных яздакоў" (так прынаджвала „Беластоцкая газета" на сваё свята). Разам з беластаччанамі хацела ўпершыню перажыць аўта-мота-рэвію „Радэа" якая, адбыўшы турнэ па апольскіх гмінах, наведала сталічны Беласток, разбураючы дашчэнту машыны і псіхічную раўнавагу беластаччан. Магутныя цэнтральнадажынкавыя сцэны „Гвардыі" трашчалі ў швах. Але раней на скрыжаванні вядомых вуліц трэснулі Гапкіны ногі.

Навошта было ёй дрыпоніць на чортавых каскадэраў у „максі" і на коўбіках? — скажаце. Вось і я так кажу. Ды, відаць, не разумеем мы жаночай псіхікі. Тут прыпомніў я Парфена. Сакрэт „міні" раскрываў ён рэакцыяй на адкрыццё касмічнай эры. Таксама рэвалюцыя. Жанчына ўпадабнялася да ракеты, маніла ашаламляючым падарожжам. Яшчэ ўспомніў паэта. Жанчына, бы захапляючая кніга. Чытаеш усё жыццё і ўвесь час нанова адкрываеш яе. Ізноў Парфен. Міні-міні спаднічкі зрабілі „чароўную даму" надта лёгка „чытабельнай". Трэба было яе вывесці з тупіка, у якім яна апынулася з-за амаль цалкавітай ліквідацыі спадніцы. Дыктатары моды прабуюць ратаваць жанчын максішокам. У выпадку Гапкі — скутак фатальны.

Ці ведала ты (Гапка, Гапка), што пагоня за разнастайнасцю бяжыць такой коўзкай дарожкай? **ДЗЗ**

У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМІСІІ

## ЛІТАБ'ЯДНАННЕ „БЕЛАВЕЖА"

Чарговае пасяджэнне Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку, якое адбылося 1 чэрвеня г.г., было прысвечана абмеркаванню дзейнасці літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Інфармацыю па гэтаму пытанню зрабіў доўгагадовы старшыня Аб'яднання Алесь Барскі. У ёй прадставіў ён не толькі творчыя дасягненні „Белавежы", але і паказаў гісторыю ўзнікнення і развіцця беларускага літаратурнага руху ў Польшчы.

Інфармацыя выклікала жывое зацікаўленне членаў Нацыянальнай камісіі (абмеркаванне нашай літаратурнай дзейнасці праводзілася ўпершыню ў гэтым партыйным органе). Яны высока ацанілі дасягненні нашага літаратурнага аб'яднання, асабліва падкрэсліваючы яго грамадскае заангажаванне і выказалі пажаданні далейшых поспехаў у гэтай карыснай дзейнасці. Між іншым, была выказана думка шырэйшага ўключэння аб'яднання ў працу школ (літаратурныя сустрэчы членаў „Белавежы" з школьнай моладдзю — дасканалае дапаўненне навучання беларускай мовы).

У пасяджэнні прыняў таксама ўдзел новы старшыня „Белавежы" Віктар Швед. (рл)

## БЕЛАРУСКІ ВЯСЕЛЬНЫ АБРАД І ФАЛЬКЛОР

Пасля цікавага даклада „Беларускі дзіцячы і радзільны фальклор", выконваючы просьбу слухачоў, др А. Баршчэўскі прадоўжыў свой фальклорны цыкл.

24 мая г.г. у памяшканні варшаўскага аддзела БГКТ адбыўся чарговы даклад з гэтага цыкла: „Беларускі вясельны абрад і фальклор".

Абапіраючыся на працы беларускіх этнографаў і фалькларыстаў, А. Баршчэўскі пазнаёміў слухачоў з найбольш каларытнымі, прыгожымі і разнароднымі вясельнымі абрадамі беларусаў і звязаным з імі багатым фальклорам.

На фоне агульнабеларускіх вясельных абрадаў і вясельнага фальклору А. Баршчэўскі прадставіў багатыя вясельныя абрады і фальклор, бытуючыя да сёння ў беларускім асяроддзі на Беласточчыне. Прытым спаслаўся ён на цікавую магістэрскую працу выпускніцы кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Веры Асіпюк (Кас'янюк), якая на прыкладзе роднай вёскі Кленікі ў Гайнаўскім павеце вельмі шырока прадставіла гэтую тэму, а таксама на багаты фальклорны матэрыял, сабраны іншымі студэнтамі Варшаўскага універсітэта.

Слухачы, якія паходзяць з розных паветаў паўднёва-ўсходняй часткі Беласточчыны, унеслі ў часе дыскусіі многа ўласных заўваг аб бытуючых у іх ваколіцах вясельных абрадах і прыводзілі з памяці радкі беларускіх вясельных песень.

Напэўна некаторыя слухачы, пад уплывам цікавага даклада А. Баршчэўскага, стануць збіральнікамі, прынамсі ў родных ваколіцах, багатага беларускага фальклору і аджываючых ужо свой век народных абрадаў.

**В. Ш.**

*НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ*



*Вучаніцы ліцэя ў Дуброве на спартыўнай пляцоўцы.* *Фота Я. Цялушэцкага*

## Для турыстаў

У паветах апрацаваны комплексныя праграмы ў галіне культурных паслуг для турыстаў і адпачываючых. У ваяводскім плане культурных мерапрыемстваў ёсць мерапрыемствы міжнароднага, агульнапольскага, ваяводскага і рэгіянальнага характару.

Апрача таго, будуць аддадзены ў карыстанне новыя культурныя аб'екты. У ліпені будзе адкрыта ў **Беластоку** новае памяшканне музея Войска Польскага, а ў жніўні будуць арганізаваны скансены: падляшскі ў **Гайнаўцы** і мазурскі ў **Элку,** а таксама татарскі музей у **Сакольскім** павеце. (ак)

Пачатак на стар. 1




лення сваіх прафесіянальных ведаў, рашыла здабыць вышэйшую адукацыю. Аднак пяць вечароў у тыдзень, у тым ліку суботні і нядзельны, Аня праводзіць у беларускім клубе. Да гэтага трэба яшчэ далічыць той час, які неабходны, каб арганізаваць розныя мерапрыемствы.

— Я ўжо прывыкла, — кажа яна, — што клуб стаў маім другім, калі не асноўным домам Я ж тут не адна, са мной сябры, са мной праўленне і актывісты.

Вось некаторыя з іх: Ян Мацкевіч і Эдвард Шафаловіч — члены прэзідыума праўлення, Ян Міхайлаў — маляр, рабочы Гданьскага порту, Галіна Кулакоўская — настаўніца, русіцыстка, Раіса Драшчук — медсястра, Анатоль Літвінчук — студэнт Гданьскага палітэхнічнага інстытута, Вячэслаў Стукаў — навуковы работнік Гданьскага палітэхнічнага інстытута, Уладзімір Вішанка — рабочы, будаўнік, Ян Гарустовіч — электраманцёр, рабочы Гданьскай суднаверфі, Аліна Леўчук, Ольга Іванюк, Ірэна Гарлеўская.

Гэта асноўны актыў. Апрача іх у рэестрах гданьскага аддзела БГКТ налічваецца звыш 100 членаў. Адны больш актыўныя, іншыя менш, знаходзяцца і такія, што абмяжоўваюцца аплочваннем членскіх узносаў. Значыць, тут усё нармальна, як у кожным іншым асяроддзі.

Аднак тутэйшыя беларусы не расплыліся беспрыкметна ў шматлюдным Гданьску і яго прыгарадах. Іх наяўнасць вызначае канкрэтная праца. Прымаюць удзел ва ўсіх грамадскіх мерапрыемствах горада, наладжваюць вечарыны, сустрэчы, урачыстыя сходы і даклады на карысныя і цікавыя тэмы. Зусім нядаўна, 7 красавіка гэтага года, ляснічы Эдвард Шафаловіч заахвоціў сваіх сяброў, каб прынялі ўдзел у пасадцы лесу. Працавалі разам 120 гадзін. На Дзень жанчын Славак Новік, Сцяпан Тапалеўскі, Эдвард Шафаловіч разам з іншымі сябрамі падрыхтавалі ў клубе прыемную неспадзяванку сваім сяброўкам. Быў супольны чай і кава, было піражнае і віно, была вясёлая сяброўская гульня...

Бадай не без падстаў віцэ-прэзідэнт горада Гданьска магістр **Казімеж Рынкоўскі** накіраваў у адрас праўлення гданьскага аддзела БГКТ наступную падзяку:

*„Ад імя Камісіі грамадскіх чыноў пры Гданьскім камітэце Фронту адзінства народу і ад уласнага імя сардэчна дзякую вам за шматлікі ўдзел членаў вашага таварыства ў грамадскіх чынах дзеля дабра нашага горада ў 1973 годзе.*

*У вашым дабраахвотным і масавым грамадскім чыне, які вы праводзілі ў мінулым годзе на тэрыторыі гарадскога заапарку, я бачу чарговы доказ актыўных адносін да нарастаючых грамадска-гаспадарчых патрэб горада...“*

Мне здаецца, што не справа ў пахвалах і заслугах. Найважнейшае тое, што нашы людзі сярод безыменнага гарадскога натоўпу маюць „сваё“ месца, куды могуць зайсці, дзе могуць заводзіць знаёмствы, паспяваць, пагуляць і адчуваць сябе, як у бацькоў, як дома...

Засядзеліся мы і не агледзеліся, калі ўжо набліжалася поўнач, а Аня Краська жыве далёка, можа не паспець на апошні аўтобус...

— Гэта здараецца ў мяне даволі часта... — гаворыць яна на развітанне.

Клуб адкрыты ад пятай гадзіны вечара. На наступны дзень, у чацвер, заходжу пасля пятай і на лесвіцы сустракаю **Косцю Свентахоўскага**, будаўніка, мантажніка, родам з Макаўкі. Ён таксама спяшаецца ў „свой“ клуб.

— А што ж рабіць аднаму пасля працы?

Неўзабаве з'яўляецца **Міхась Нядзведзь**, выпускнік Гайнаўскага тэхнікума лясной прамысловасці. Працуе ён у марскім яхтклубе. Ці мае нейкую справу ў клубе?

— Не, — адказвае ён, — вось зайшоў так, без справы. Я тут часта бываю. Прыходзяць хлопцы, дзяўчаты, дык і я...

Гавораць між сабой пераважна ўжо на польскай мове. Яны ж прайшлі праз польскія школы, працуюць у польскіх асяроддзях, часта зусім не ведаюць літаратурнай беларускай мовы і, бадай, ужо думаюць па-польску. Толькі часам пачуць можна тут ад іх нейкае слова з-пад Гайнаўкі ці з-пад Бельска. І толькі, калі завядуць сваю песню, ад душы, ад сэрца... Штосьці засталося ў глыбіні іх псіхікі, што цягне іх да сябе, да гэтага клуба пад Нептунам... І мяне не хацелі адпусціць.

— Застаньцеся да суботы, — заахвочвалі. — У нас будзе цікавая вечарынка. Раскажаце нам пра сваю працу, пра Беласток.

І мне хацелася застацца з імі, аднак абавязкі клікалі ў дарогу. Спяшаючыся на цягнік, я здалёк яшчэ раз азірнуўся, каб паглядзець у гэтае, цяпер знаёмае, акно беларускага клуба, з якога, як на далоні, відаць бог мораў і акіянаў громаносны Нептун.

**Віктар Рудчык**

БЕЛАСТОЧЧЫНА РАЗВІВАЕЦЦА

# САКОЛЬСКІ „СПОМАШ“

У перспектыўным плане грамадска-эканамічнага развіцця Беласточчыны прыняты тры напрамкі дзейнасці. Адным з іх з'яўляецца спажывецкая прамысловасць на базе мясцовай сыравіны. Ствараецца тут такая прамысловасць, якая б не шкодзіла натуральнаму асяроддзю чалавека: не забруджвала б вады ў рэках і не атручвала б флоры і фауны гэтага рэгіёна.

Адным з заводаў, вядомых не толькі ў краіне, але і па-за яе межамі, з'яўляецца завод машын і прылад для спажывецкай прамысловасці „Спомаш“ у Беластоку.



*Агульны від сакольскага завода „Спомаш“.*

У Саколцы вырас яго філіял. Сакольскі „Спомаш“ — гэта наскрозь сучасны завод. Складаецца ён з аграмаднага фабрычнага цэха з пяццю прылягаючымі да яго завадскімі нефамі, розных складаў і іншых прадукцыйных памяшканняў. Пабудавана таксама сацыяльна-бюровае памяшканне. Тут будуць сучасныя функцыянальныя раздзявальні, умывальні і душы з цёплай і халоднай вадой, санітарныя памяшканні, велізарная сталовая і памяшканні для адпачынку і снедання.

Сакольскі „Спомаш“ перш за ўсё будзе спецыялізавацца ў прадукцыі машын для мыцця бутэлек рознага тыпу. Як патрэбна гэта прадукцыя, ведаюць добра вытворні газіраванай вады, гастранамічныя пункты, малачарні, не гаворачы ўжо аб большых спажывецкіх заводах.

Планавалася, што завод у Саколцы будзе перададзен у карыстанне 15 кастрычніка г.г. Аднак дзякуючы добрай арганізацыі працы Падляшскае будаўнічае прадпрыемства абавязалася скараціць цыкл будовы. Такім чынам, будова будзе закончана на тры месяцы раней тэрміну.

Брыгады „Спомашу“, не чакаючы пакуль будаўнікі закончаць цалкам працу, прыступаюць да мантажу вытворчых машын. У будучым годзе завод выпрадукуе машыны, вартасць якіх будзе больш 57 мільёнаў зл. Рабочы калектыў сакольскага „Спомашу“ будзе складацца з 500 чалавек.

Ужо цяпер больш 100 чалавек абвучана на спецыялістычных заводах, больш 80 чалавек з Саколкі і ваколіц працуе і вучыцца на заводзе ў Беластоку, прадбачваецца арганізаваць два курсы ўжо на месцы ў Саколцы.

Гэта якраз і ёсць канкрэтная рэалізацыя намечанай праграмы развіцця нашага ваяводства.

Тэкст і фота **А. Карпюка**




*Шмат прылад да сакольскага „Спомашу“ прыходзіць з СССР.*



*Не чакаючы будаўнікоў, „спомашаўцы“ ўстанаўліваюць станкі ў цаху завода.*

Беларуская ЛІТАРАТУРА — АЛЯКСАНДАР БАРШЧЭЎСКІ

## Нашаніўская пара

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА V

Крышталізацыя пачуццяў. Сярод асоб, якія адыгралі значную ролю ў набліжэнні Багдановіча да беларускіх праблем, бацька паэта называе сваю сястру Магдаліну. Магдаліна Гапановіч жыла так, як і сям'я Багдановічаў, у Ніжнім Ноўгарадзе. Магдаліна дасканала разбіралася ў спецыфіцы беларускай абраднасці. Культывавала беларускую звычаёвасць, адзначала ўсе беларускія святы. Дзякуючы Магдаліне Гапановіч Максім уваходзіць у спецыфічную беларускую народную атмасферу. Мог ён канфрантаваць свае тэарэтычныя веды з практычнай абрадавай дзейнасцю сваёй цёткі. Атмасферу, створаную Магдалінай Гапановіч, дасканала аддае выказванне бацькі паэта: „Сестра Магдалина, носительница традиций нашего рода, жила и вела свою семью так, как делали её мать и бабушка: она соблюдала и чтила все наши обряды, справляла дзяды, коляды, масленицу и великодни и непременно так, как это делали предки“ і далей „...Максим всё свободное время проводил у теток, в играх и забавах со своими двоюродными братьями и сёстрами. И дома и у теток он слышал рассказы и воспоминания про родную старину, где выныряли разные лица и события, своеобразные, загадочные, так непохожие на все окружающее. Здесь же он слышал и белорусскую сказку и белорусскую песню с ее грустным манящим напевом, полным глубокого неисчерпаемого цвета, здесь же вырывалась живая белорусская пословица, меткие крылатые слова, это, конечно, были крупицы, крохи, но он чутко их подбирал, схватывая налету“.

Дзякуючы цётцы Магдаліне Багдановіч быў не толькі слухачом і гледачом на беларускіх „спектаклях“, але іх непасрэдным удзельнікам, іх героем. Роля цёткі не зводзіцца да азнаямлення Багдановіча з беларускімі абрадамі і фальклорам. Яна першы раз выпісала Максіму „Нашу ніву“. Момант гэты быў пераломным у працэсе крышталізацыі нацыянальных пачуццяў Багдановіча. Усё звязанае з Беларуссю, з чым сустракаўся Багдановіч да гэтага моманту, было накіравана сваёй істотай у мінулае. Асобы беларускага паходжання, пражываючыя ў глыбіні Расіі, найчасцей толькі эмацыянальна вярталіся да мінулага, да сваёй краіны, практычна амаль ніхто з іх не быў звязаны з актуальнымі беларускімі праблемамі. Яшчэ ў большай ступені да мінулага трэба адчесці фальклорныя беларускія зборнікі і гістарычныя даследаванні, з якімі знаёміўся Багдановіч. „Наша ніва“ ўсімі карэннямі была звязана з беларускім актуальным жыццём. Яе артыкулы адклікаліся на найбольш істотныя патрэбы беларускай вёскі. Таму якраз кантакт Максіма з „Нашай нівай“ меў грамаднае значэнне для крышталізацыі яго як чалавека, як паэта і як беларускага дзеяча. Фальклор, кнігі, сямейныя традыцыі вучылі Багдановіча кахаць Беларусь. „Наша ніва“ вучыла паэта працаваць для айчыны. Разглядаючы праблему сувязі і ўплываў, не можам, зразумела, трактаваць яе аднабакова. Багдановіч быў выключнай чалавечай індывідуальнасцю, і таму можам гаварыць таксама аб яго ўплыве на „Нашу ніву“. У адным з сваіх пазнейшых артыкулаў Багдановіч напісаў: „Толькі жабракі ўсё жыццё бяруць, не даючы нічога ў замен“. Багдановіч не толькі браў, але і даваў. Гаворачы дакладней, больш даваў, чым браў. Адносіцца гэта і да яго сувязей з „Нашай нівай“. Яго паэзія на старонках „Нашай нівы“, яго артыкулы, змешчаныя ў перыёдыках, звязаных з „Нашай нівай“, узбагачалі нашаніўскі рух, уносілі ў яго новыя матывы, новыя формы, новыя жанры, новыя ідэі. Гэтак было пазней, тады, калі Багдановіч стаў паўнапраўным, пастаянным супрацоўнікам беларускага тыднёвіка. У пачатку аднак быў перыяд, калі „Наша ніва“ аказала грамадны ўплыў на Багдановіча.

Разглядаючы праблему крышталізацыі беларускай нацыянальнай свядомасці, нельга абыйсці таксама прыезд Багдановіча ў Беларусь у 1911 годзе. Па запрашэнню выдаўцоў „Нашай нівы“ братоў Луцкевічаў Багдановіч пасля 15-гадовага прабывання ў глыбіні Расіі прыехаў у Беларусь, краіну, у якую ішоў усё сваё свядомае жыццё. Непасрэднае сутыкненне з айчынай, аб якой марыў паэт многа гадоў, мела грамаднае значэнне ў паглыбленні яго эмацыянальнай сувязі з Беларуссю.

# ТРЫБУНА чытачоў

## Партыйны чын у гміне Шудзялава

У Шудзялаўскай гміне ёсць 106 членаў партыі. У партыйным чыне ў маі прыняло ўдзел 90 працэнтаў. ПОП Шудзялава, Слоя, Баратыншчына і Казловы Луг працавалі пры падрыхтоўцы фундаменту для адміністрацыйнага будынка цэнтра здароўя і гміны ў Шудзялаве. ПОП з Піражкоў і Астроўка працавалі на дарозе Піражкі-Астровак. ПОП Паўночнага Вострава рабіла на дарозе Востраў-Гураны. ПОП з Вярхлесся і Лазніскі рамантавала вуліцу ў вёсцы Вярхлессе, дзе працаваў таксама гурток ЗСЛ і многа беспартыйных. ПОП у Талькоўшчыне і Сукавічах напраўлялі дарогу каля сваіх вёсак.

У Шудзялаве ў час чыну была адкрыта крама. Пасля заканчэння чыну яго ўдзельнікі арганізавалі супольны абед.

З прызнаннем трэба сказаць аб кіраўніку цэнтра здароўя ў Крынках — Юрыю Ціхоньскім, які вельмі стараўся, каб чын у Шудзялаве для будучага цэнтра здароўя прайшоў спраўна. Ён ужо ад 7 гадзіны раніцы быў у Шудзялаве і арганізаваў працу.

**Т. К.**

## Кансультацыя юрыста

**ПЫТАННЕ:** У часе судовага пасяджэння быў заключаны дагавор, на аснове якога С. купіў ад Н. памяшканне ў доме, які з'яўляўся ўласнасцю Н. і складаўся з двух памяшканняў. С. заплаціў за гэта 40.000 зл. Пасля смерці Н. яго жонка падала на С. у суд, патрабуючы арэнднай платы; яна спасылалася на тое, што не прымала ўдзелу ў заключэнні дагавору ў судзе і што яна з'яўляецца саўладальніцай дома, а муж не меў права распараджацца памяшканнем без яе згоды. Ці можа яна патрабаваць арэнднай платы?

**АДКАЗ.** Судовы дагавор раўназначны з умовай, заключанай у натарыуса. Аднак у нашым выпадку гэты дагавор няважны. Закон не прадбачыць магчымасці продажу памяшкання ў доме, які з'яўляецца прыватнай уласнасцю. Можа быць прададзены толькі цэлы дом разам з пляцам, на якім ён пабудаваны. Аднак, паколькі С. карыстаецца памяшканнем з добрымі намерамі, ён не абавязан плаціць за яго карыстанне. Жонка Н. магла б у гэтым выпадку патрабаваць праз суд прымусовага высялення С. На патрабаванне С. павінна была б яна звярнуць яму заплачаныя мужу 40 тысяч злотых.

## Белавежскія кастры

Турысцкае бюро ПТТК ў Белавежы штогод арганізуе для экскурсантаў мерапрыемства пад назвай „Касцёр". Бывае, што ў адзін вечар у розных месцах Белавежскай пушчы распальваецца некалькі кастроў. Экскурсанты едуць у пушчу фурманкамі. У лесе чакае іх палясоўшчык, які распальвае падрыхтаваную кучу дроў. Распачынаецца вясёлая гульня. У такт гармоніка ідуць спевы і танцы. Вельмі любяць прыехаўшыя пячы над агнём каўбасу. На жаль, усе гэтыя мерапрыемствы рэдка адбываюцца без гарэлкі. Дагарэў касцёр, сціхаюць спевы. Экскурсанты вяртаюцца ў гасцініцу, на другі дзень у свае гарады. Ды ўспаміны застаюцца надоўга.

**Пётр Байко**
**фота Войцеха Мінкевіча**



*Каўбаска з кастра намнога смачнейшая.*

## Па-рознаму можна гаспадарыць

Гміна ў Орлі Бельскага павету не ўмее, відаць, гаспадарыць. Амаль усе дароті тут не адрамантаваны. Дарога, якая ідзе з Дубіч Царкоўных у Орлю, першая падае знак, як пра яе дбаюць. Палавіна яе, што належыць да Дубіцкай гміны, асфальтаваная, роўная, гладкая; другая палавіна, што да Орлі — толькі сяк-так зажвіраваная, а калі пралажаць тут асфальт, ніхто не ведае. А па гэтай жа дарозе курсуе аўтобус, і пасажыры добра ведаюць, у якім месцы трэба моцна трымацца за ручкі, каб не растрасло цябе.

**П. Дубовіч**

## Свята малых у Рэпісках



Вёска Рэпіскі налічвае 50 жыхароў. Тут многа моладзі. Частка яе вучыцца ў гарадах, а частка памагае бацькам на гаспадарцы. Моладзь вёскі прымае актыўны ўдзел у працы такіх арганізацый, як БГКТ, ЗСМВ, ЛЗС. Нядаўна гэтыя арганізацыі супольна арганізавалі Дзень дзіцяці. На ўрачыстасць запрасілі ўсіх дзяцей да 12 год. Купілі ім цукеркі, пранікі, аранжаду. Сабралося каля 40 дзяцей. Апекуны парамі ўвялі іх пад музыку гармоніка ў ясны зал. Пасадзілі за сталы. Старшыні гурткоў паасобных арганізацый склалі дзецям пажаданні і запрасілі частавацца прысмакамі. Пасля пачалася гульня. На гармоніку іграў Іван Плева. У перапынках праводзіліся конкурсы на найлепшую песню, „Каго найбольш любіш", „Дарога ў школу" і іншыя.

На заканчэнне, а 20 гадзіне малышоў праважалі дахаты іх старэйшыя сябры з арганізацыі. І дзеці, і іх бацькі былі вельмі задаволены. Помніць людзі будуць пра гэтую цікавую ініцыятыву рэпіскіх арганізацый, якая выйшла ад старшынь гурткоў Ірэны Давідзюк — БГКТ, Веры Семянюк — ЗСМВ, Пятра Якубюка — ЛЗС, а таксама актывістаў Ірэны Варонка, Веры Паскробка, Ніны Нічыпарук, Слаўка Паўлоўскага і іншых.

Дзіцячае свята ў Рэпісках адбывалася ў былой чатырохкласнай школе, якую гміна ў Гайнаўцы перадала ў карыстанне моладзі.

**В. Бура**

*На здымку: Ірэна Давідзюк, старшыня гуртка БГКТ.*

## Весткі з Крывяціч-ПКС

Ад 26 мая 1974 г. у Крывяцічы пачаў ездзіць аўтобус ПКС. Курсуе ён з Бельска ў Гайнаўку праз Орлю-Крывяцічы-Махнатае, а з Гайнаўкі тою ж дарогаю ў Бельск. Добра цяпер сялянам і вучням, якія даязджаюць у Бельск і Гайнаўку.

**І. Кірызюк**





## Ці ў крэмпліне лепш?

Бібліятэчная філія ў Грэдалях і бібліятэчны пункт у Тапчыкалах стараюцца развіваць культурнае жыццё ў сваім асяроддзі. Фальклорны калектыў, які складаецца з удзельнікаў гэтых двух вёсак, прыняў удзел у павятовых элімінацыях і заняў першае месца за фальклорную песню. Потым калектыў падрыхтаваў „Вечарынку", якая таксама ўсім спадабалася. З „Вечарынкай" калектыў з Тапчыкал-Грэдалёў выступаў у павеце і ў ваяводстве. На вёскі аднак жанчыны ехаць не хочуць, баяцца, што вёска на сваіх жанчын не захоча глядзець. Недаацэньваюць яны таго факту, што прыгажосць сваёй песні і народных абрадаў трэба захоўваць і распаўсюджваць. Ды як тут выступаць у суседняй вёсцы ў саяне, калі кума будзе ў крэмпліне?

**Суседка**

## Добры гаспадар

Вёска Плянта ў Гайнаўскім павеце — невялікая, некалькі дзесяткаў гаспадарак. Ды і тут ёсць добрыя гаспадары, як, напрыклад, Анатоль Красноўскі, Міхал Кот, Рыгор Цэха і іншыя.

Рыгор Цэха працуе на гаспадарцы і таксама на чыгунцы ў Нараўцы. Гаспадарка ў яго — 3 гектары ворнай зямлі. Але ён яшчэ арандуе каля 2 га з занядбаных гаспадарак.

У яго два гектары лугоў і паш. Трымае тры каровы, 2 ялоўкі, каня, авечак і 8 свіней, з якіх 4 штукі ў гэтым годзе закантрактаваў. У яго ёсць свінаматка і кныр. Будынкі ў Рыгора Цэхі новыя. Вялікі прыгожы хлеў, у якім можна гадаваць яшчэ больш жывёлы. У клуні заўсёды поўна сена і іншай пашы. Гэта дбайны гаспадар. На будучы год ён хоча ў два разы павялічыць колькасць кароў і ў паўтара раза колькасць свіней.

**Ружа**

## Цікавы семінар

У канцы мая ў Белавежы адбыўся навуковы семінар, на якім стаялі праблемы электроннай мікраскопіі. Удзел прынялі вучоныя з усёй Польшчы, а таксама замежныя. Вялікае зацікаўленне выклікаў электронны мікраскоп японскай фірмы „IOEL", які дэманстраваўся двума японскімі вучонымі ў холе прыродазнаўчага музея. Акрамя ўдзельнікаў пасяджэння, з мікраскопам пазнаёмілася шмат экскурсантаў, якія прыехалі тады ў Белавежу.

**Пётр Байко**

## Няслаўная хроніка

■ На дарозе недалёка ад вёскі Машчона-Панская ў Сямяціцкім павеце „Урсусам С-4011" ехаў Іван Каролька, 32 гады. Быў позні вечар. Трактар з'ехаў у роў і перакуліўся. Прыдушыў трактарыста, які памёр на месцы.

■ Поезд Чаромха-Гайнаўка, праязджаючы каля станцыі Чаромха, струменем паветра кінуў на стоўб 14-гадовага Толіка Раманчука, які пры рэйках пасвіў кароў. Параненага хлапца адвезлі ў гайнаўскую бальніцу.

■ Каля вёскі Ляшкі ў Беластоцкім павеце ў час прац на лініі высокага напружання ўдарыла токам 39-гадовага манцёра Івана Бакляту з Беластока.

■ У Беластоку-Старасельцах у будынках Язэпа Якубоўскага паўстаў пажар. Згарэла многа дабра на суму 100.000 зл. А потым на папялішчы клуні знайшлі спаленае цела Язэпа Якубоўскага.




**Пазнаёмімся.** „Я з'яўляюся вучаніцай ліцэя ў горадзе Гайнаўка. Мне 18 год. Хачу перапісвацца з моладдзю з заграніцы. Хачу такім чынам пашырыць свае веды па геаграфіі свету. Ведаю мовы: польскую, рускую, нямецкую і слаба англійскую. Ад маладых сяброўак з пачатковай школы № 2 імя А. Фларэнкі я чула, што ты, дарагая рэдакцыя, можаш перадаць мой адрас за граніцу. Калі так, дык, вельмі прашу, выканай маю просьбу".

Рэдакцыя, публікуючы адрас, пускае ў свет просьбу сваёй чытачкі: **Польшча, Беластоцкае ваяводства, 17-00 Гайнаўка, вул. Нова 3а, Ірэна Ярмоцік.**

**Нестар Перавой.** Бельск. Няма патрэбы рабіць перадрукаў інфармацыі аб падвойным ураджаі бульбы. Нешта вы замоўклі на штодзённыя справы.

**Міра Лукша.** Мініяцюру „Ён" надрукуем.

## Багатыя дні на Гайнаўшчыне

Дні асветы, кніжкі і прэсы ў Гайнаўскім павеце прайшлі вельмі ўрачыста. Былі выстаўкі, кірмашы, кніжная латарэя, аўтарскія сустрэчы.

Ініцыятарам большасці мерапрыемстваў была павятовая бібліятэка, якая супрацоўнічае з гміннымі бібліятэкамі, з прадпрыемствам „РСВ „Прэса-кніжка-рух" і павятовым домам культуры.

Сярод іншых сустрэч хочацца адзначыць сустрэчу з салдатам 5 саскай дывізіі пяхоты II Арміі Войска Польскага Янам Лэмпкоўскім — аўтарам кніжкі „Апошнія дні". Сустрэчы адбыліся ў Белавежы і Гайнаўцы. Святліца ляснога тэхнікума імя генерала Вашкевіча ў Белавежы была перапоўнена. Школьная моладзь і жыхары Белавежы хацелі як найбольш пачуць пра героя кніжкі — генерала Аляксандра Вашкевіча, які нарадзіўся ў Белавежы.

Сустрэча была вельмі цікавай і працягнулася да позняга вечара.

**Раса**

## Пісьманосец-гаспадар

Ужо многа год на пошце ў Старакорніне працуе пісьманосцам Уладзімір Місеюк. Пайшоў ён на працу, бо не мог пракарміць сям'і з занядбанай гаспадаркі, якую пераняў па бацьку. Працуючы ўжо на пошце, пачаў адбудоўваць будынкі. Пабудаваў вялікую клуню, абгарадзіў сваю сялібу. Гэта быў пачатак.

На заклік партыі пашырыць жывёлагадоўлю адклікнуўся першы. Ад 1969 года гадуе некалькі кароў, каня і кожны год выкормлівае 30 вепрукоў, якія прадае дзяржаве. За пяць год здаў ужо 150 кормнікаў. Зарабіў на гэтым каля паўмільёна злотых.

Большую частку свайго дня аднак адводзіць ён дапучэнню газет і часопісаў, а мае іх нямала — 600 экземпляраў, у тым ліку 115 экземпляраў „Нівы". Ёсць пры чым пахадзіць. За добрае выконванне абавязкаў ОУРТ у Гайнаўцы ўзнагароджваў яго.

Каб больш такіх пісьманосцаў! Было б не толькі што чытаць, але многа чаго з'есці. Жадаю табе, пісьманосец-гаспадар, яшчэ лепшых дасягненняў у абедзвюх працах.

**Раса**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ЯК НАПРАВІЦЬ ДАРОГУ?

**Адказвае:**
**POWIATOWY ZARZĄD DRÓG LOKALNYCH W HAJNÓWCE.**

W odpowiedzi na petycję z dnia 21 marca 1974 roku pt. „Jak naprawić drogę" tutejszy Zarząd uprzejmie komunikuje, że wspomniany odcinek zostanie doprowadzony do stanu przejezdności przez użytkowników drogi i mieszkańców miasta Hajnówki w ramach czynu, który jest organizowany na dzień 12 maja 1974 r.

**Kierownik**
**Powiatowego Zarządu Dróg Lokalnych**
**Włodzimierz Antosiuk**

**Ад рэдакцыі:** На жаль, мы не маглі даць гэтай інфармацыі перад 12 мая.

### ПРА АЎТОБУС КЛЯШЧЭЛІ-ГАЙНАЎКА

**Адказвае:**
**WOJEWÓDZKIE PRZEDSIĘBIORSTWO PAŃSTWOWEJ KOMUNIKACJI SAMOCHODOWEJ ODDZIAŁ I W BIAŁYMSTOKU. PLACÓWKA TERENOWA W SIEMIATYCZACH.**

Placówka terenowa PKS w Siemiatyczach w związku z ukazaniem się artykułu w „Niwie" Nr 16 (947) z dnia 21.04.74 r. wyjaśnia:

Autobus relacji Kleszczele — Hajnówka, wyjeżdżający z Kleszczel o godzinie 6.00 rzeczywiście niejednokrotnie miewał opóźnienia, czy też w ogóle nie kursował. Taka sytuacja wynika z tego, że nasza Placówka PKS boryka się z wieloma trudnościami, a w szczególności brak jest wysoko wykwalifikowanych kierowców autobusowych oraz brak autobusów. Dysponujemy taborem w większości zużytym, a brak części zamiennych do autobusów unieruchamia również niejednokrotnie jedną z wielu linii, obsługiwanych przez naszą Placówkę PKS.

Kierownictwo Placówki Terenowej PKS czyni wszelkie starania, by poprawić jakość w wykonywanych usługach przewozowych.

Za trudności w korzystaniu z naszych usług serdecznie pasażerów przepraszamy.

**Kierownik placówki PKS**
**w Siemiatyczach**
**podpis nieczytelny**

NIWA 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch". Indeks 36911.

# ПЕДАГАГІЧНАЕ РОНДА

З некаторага часу я стаў проста не пазнаваць свайго сына. Ён пачаў размаўляць нейкім ненатуральным голасам. Нікога і нічога не заўважаючы, ходзіць па пакоі і дэкламуе:

І табе славу мы пяём,
Наш родны, мілы, наш мясцком.

— Што гэта ты вярзеш? Урокі зрабіў?

— А мяне вызвалілі ад урокаў. Сёння ў адзінаццаць гадзін вітаем аб'яднаны прафсаюзны сход, затым — канферэнцыю „Чырвонага крыжа", а вечарам, у школе — пасяджэнне педсавета.

— А чаму гэта менавіта ты павінен абавязкова кожны дзень удзельнічаць у розных прывітаннях?

— Таму, што я лаўрэат міжшкольнага конкурсу мастацкага чытання. Лепш за мяне ніхто не можа... Тата, ты мне перашкаджаеш, я засыплюся...

Дабрату хай нашу знае
Лондан, Мехіка, Парыж.
Абяцаем, што ўступім
Як адзін, у чырвоны крыж, —

узнёсла выкрыквае сын.

— Ідзі снедай!

— Пасля, пасля, няма часу...

Калі я адыходзіў на работу, з пакоя неслася:

І жыць не менш сто зім, сто лет
Табе, наш родны педсавет.

Назаўтра да абеда сыну трэба было віншаваць канферэнцыю рацыяналізатараў, пасля — аптэчных работнікаў, у наступны дзень — нараду спажывецкага таварыства і ўдзельнікаў прафесіянальнага конкурсу медыцынскіх сясцёр, у суботу — канферэнцыю спартыўнага таварыства, у нядзелю — конкурс афіцыянтак.

Ужо звыкся, што заўсёды раніцой я пакідаў кватэру, чуючы вершы накшталт гэтых:

Трэба заўсёды пець нам:
Слава аб'ездчыкам і леснікам!

У канцы мая ў школе адбыўся бацькоўскі сход з выпадку заканчэння навучальнага года. Па дарозе сын заклапочана мармытаў:

Нашым педагогам
Мы нясём падзяку,
За клопаты дзякуй,
За навуку дзякуй!

У час выступлення класнага кіраўніка я гатоў быў скрозь зямлю праваліцца. Яна сказала, што толькі ўлічваючы актыўны ўдзел у грамадскай рабоце можна перавесці майго сына ў наступны клас. Ён настолькі развіццёўся, што ніколі нічога не вучыць. Маўляў, куды толькі глядзяць бацькі! Словам, па ўсіх прадметах тройкі з нацяжкай, а па літаратуры — работа на восень.

Са сходу сын ішоў пануры, з апушчанай галавою і разгублена бубніў: „За клопаты дзякуй, за навуку дзякуй..."

**Валянцін Блакіт**



*Цяжкі выпадак.*

# НІЎКА



## МІНІВЕРШЫ

### ВІНЦЭНТАЎ КАНЦЭРТ

Дамоў апоўначы Вінцэнт
Прыйшоў і стаў даваць канцэрт.
То арыю цягнуў ён звонка,
То тупаў польку на ўвесь дух...
Канцэрт той ацаніла жонка
Гарачым пляскам аплявух.

**С. Хадаронак**

### КАЛІ БАЦЬКУ ЧАКАЕ БЯДА

— Мой сын вучыцца паступае
на санітарны факультэт.
— Вар'ят! Бяда цябе чакае! —
усклікнуў роспачна сусед.
— Чаму бяда? Ці ж гэта кепска?
— Гэ, мой як толькі паступіў,
дык мне ўжо з першага семестра
курыць і піць забараніў!..

**Ніл Гілевіч**





...У яго быў сярэдні мінімальны максімум.

...У выніку рэвізіі ў магазіне ўзнік недахоп.

### АРГУМЕНТЫ

— Дай мне два дарослых білеты і адзін дзіцячы, — сказаў касіру габравец.

— Як дзіцячы? Ваш сын ужо сапраўдны мужчына, у штанах ходзіць! — заўважыў касір.

— Добра. Тады дай дарослы для сына і дзіцячы для жонкі. Яна... ў шортах! — перакананча адказаў габравец.

### ДАБАЛБАТАЎСЯ

Да адной жанчыны зачасціў дзяк.

Аднойчы прыходзіць ён, аж і муж дома. Сядзяць яны абедаюць, і сынок невялікі каля іх. Вось дзяк гаворыць хлопцу:

— Пацалуй мяне, хлопча, я табе добрага гасцінца прынёс.

А бацька:

— Не цалуй, сыну, дзяка, бо ў цябе такая барада вырасце, як у яго.

— Вось гэта, тату, няпраўда, — кажа сын. — Маці штодня з дзякам цалуецца, а барада ў яе і не вырасла.

### АБЫ НЕ ПЛАКАЛІ

Панёс адзін дзядзька да краўца матэрыял, каб яму пашыў пінжак, а кравец быў не вельмі добры і пашыў так, што той як надзеў, дык сталі смяяцца ўсе з яго. Вось ён і прыходзіць да краўца.

— Навошта ты мне так пашыў, што цяпер усе з пінжака смяюцца?

А кравец яму і кажа:

— Гэта нічога, што смяюцца, калі б плакалі, вось было б дрэнна!

*У турыстычным паходзе.*

### ДА ЧАГО ДАЙШОЎ

Раўнівая жонка штодзённа аглядае пінжак свайго мужа і за кожны валасок, знойдзены ёю, наладжвае мужу сцэны рэўнасці. Аднойчы яна не выявіла ніводнага валаска і крыкнула:

— Вось да чаго ты дайшоў, Кандрат, не грэбуеш нават лысымі жанчынамі.

### ДОБРАЯ ПРЫКМЕТА

Ля лесу тата пасвіў коней,
А я яму дапамагаў,
І вось сталёвую падкову
Знайшоў аднойчы паміж траў.
Падняў я гэтую знаходку —
І ў дом хутчэй да каваля.
(Там чараўніца-аднагодка,
Нібыта вішанька, цвіла).
Падковай той каваль аднойчы
Кабылку Сіўку падкаваў,
А я — яго дачушку тройчы
За гэты час пацалаваў.
„Падкова — добрая прыкмета", —
Кажу з усмешкай сёння я,
Бо стала жонкай мне Анэта,
Бо стаў я зяцем каваля.

**Браніслаў Мароз**



*— Ты пры ім паакуратней: ён усё потым начальству выкладзе.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Анны Макаль з Лапічаў Сакольскага павету і Яўгена Шпілько з Храбалоў Бельскага павету змяшчаем песню

## Wakacje z blondynką

**Słowa: Jonasz Kofta**
**Muzyka: Juliusz Loranc**

To była blondynka,
ten kolor włosów tak zwą.
Sprawiła, że miałem
wakacje koloru blond.
Popołudniową godziną
spotkałem po prostu ją,
dziewczynę z bursztynu,
na wydmach koloru blond.
A potem słońce, plaża,
a czas obok siebie biegł
i zamiast kalendarza
co dzień jej przybywał pieg,
Tych piegów było trzynaście,
a może trzydzieści dwa.
W tym czasie się mieści
blondynka, plaża i ja.
To staje się prawdziwe,
kiedy pozostaje w nas.
Jej płową, złotą grzywę
co noc wichrzy ciepły wiatr,
jeden pieg.
w moich snach.
To była blondynka,
ten kolor włosów tak zwą.
Sprawiła, że miałem
wakacje koloru blond.

### У БАЛЬНІЦЫ

Хірург-наватар інструкціруе пацыента перад аперацыяй апендыцыта:

— Запамятайце: калі прачнецеся ад наркоза, адразу ж сядзьце на край ложка і пагайдайце нагамі. Гадзіны праз дзве прайдзіцеся разок наўкол ложка, а заўтра адпраўляйцеся на невялікую прагулку ў парк. Ясна?

— Так, доктар, — нервова ківае хворы, — а ў часе аперацыі можна мне паляжаць?

### СПАДЧЫНА

Дама паскардзілася аднаму разгубленаму вучонаму, што ў яе няма дзяцей.

— Можа быць, гэта спадчыннае, — сказаў вучоны. — Скажыце, у вашай маці былі дзеці?

## КУРЁЗЫ

### „АФІЦЫЯНТКІ" З ГОВАРДА

Каб прывабіць публіку ў свой рэстаран, Джозеф Фіш з амерыканскага горада Говарда абнавіў яго штат. Цяпер кліентаў абслугоўваюць два чароўныя... шымпанзэ Меры і Джэйн. Яны зусім нядрэнна спраўляюцца са сваімі абавязкамі. Малпам, відаць, прыносяць задавальненне не толькі какетлівая уніформа, але і ласункі, якімі іх частуюць наведвальнікі. І акрыялены Фіш, які працаваў раней дрэсіроўшчыкам у цырку, мае намер працягваць „рэформу"...

### БЕГ ДА... БАЛЬНІЦЫ

222 кіламетры за 24 гадзіны — такі новы італьянскі „рэкорд" устанавіў 27-гадовы Андрэа Марэлі з Ліворна. Прыняўшы старт на адным са стадыёнаў Мілана, ён прабег па яго дарожцы 556 кругоў.

Каб не заснуць, Марэлі мяняў напрамак кожныя 50 кругоў, часта піў спецыяльны раствор з глюкозай і мінеральнымі солямі.

Роўна праз суткі Андрэа Марэлі ўпаў і быў дастаўлены на насілках у бальніцу. За час свайго прабегу „рэкардсмен" пахудзеў на тры кілаграмы.

### ДАГУЛЯЛІСЯ

Фальшываманетчык Мануэль Мігес, вялікі аматар шахмат захапіў гэтай гульнёй не толькі іншых зняволеных, але і ахову турмы ў гандураскім горадзе Кандора. Па яго прапанове адбыўся турнір паміж зняволенымі і турэмшчыкамі. У разгар матча пачуўся сігнал трывогі. Выкарыстаўшы тое, што амаль уся ахова сядзела за шахматнымі столікамі або „хварэла" за сваіх фаварытаў, 12 зняволеных на чале з „галоўным суддзёй матча" Мануэлем Мігесам, уцяклі са свайго вымушанага „шахматнага клуба".




*Самая запаветная мара жаб — каб буслы сталі вегетарыянцамі.*